Беларусам не патрэбен Майдан, беларусам патрэбны чэсныя, дэмакратычныя выбары!

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 57 (4515)**

21 ліпеня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.






# Народная Воля

**МІНСК, 19 ЛІПЕНЯ 2020 ГОДА**









# На полі для кракета – мора людзей!




Нядзеля. Выхадны дзень. Карыстаючыся цёплым сонечным надвор’ем, здавалася, увесь Мінск выехаў за горад – хто на лецішча, хто да возера, рэчкі, проста ў лес…

І тут, не ў самым прэстыжным парку Дружбы народаў, на полі для кракета – тысячы людзей *(на фота зверху)*. Маладых, сярэдняга і сталага ўзросту. Занятых у розных сферах, але аб’яднаных адным жаданнем: беларусы даўно заслугоўваюць лепшага жыцця, а таму ў краіне павінны адбыцца перамены. Для гэтага неабходна, каб прэзідэнцкія выбары прайшлі чэсна, дэмакратычна, без фальсіфікацый, якія мелі месца падчас ранейшых палітычных кампаній.

Першы ў сталіцы грандыёзны пікет кандыдата ў Прэзідэнты Святланы Ціханоўскай пры падтрымцы штабоў Віктара Бабарыкі і Валерыя Цапкалы. Заўважым: у гэты ж нядзельны дзень у іх ужо адбылася адна сустрэча з выбаршчыкамі – у Дзяржынску. І вось мінчане горача вітаюць тых, хто па волі лёсу і поклічы душы апынуўся, можна сказаць, на авансцэне напярэдадні лёсавызначальнай падзеі – выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Апладысменты і кветкі – Святлане Ціханоўскай, Марыі Калеснікавай, Веранiцы Цапкала.

– Мае родныя людзі! Вам усім вялікі дзякуй, што вы прыйшлі сёння на агітацыйны пікет, прыйшлі, каб мы ўбачылі, якая за намі стаіць сіла. І ваша сіла надае сілы і нам. Нам было б крайне складана вырuліць з гэтага ўсяго, калі б мы не бачылі вашы палаючыя вочы. Уся сіла ў вас! Дзякуй вам вялікі! Помніце: толькі разам мы зможам пабудаваць краіну для жыцця, – вось такімі простымі, але ўражваючымі словамі звярнулася да тысяч людзей, якія прыйшлі на пікет, Святлана Ціханоўская.

Вераніка Цапкала з болю гаварыла пра тое, што кожны год усё больш і больш грамадзян Беларусі пакідаюць радзіму і з’язджаюць за мяжу, не хочуць заставацца ў сваёй краіне і нараджаць дзяцей. Гэта таму, што там, у дэмакратычных дзяржавах, ёсць свабода і надзея – тое, чаго няма ў Беларусі.

Марыя Калеснікава, выступаючы перад морам людзей, гаварыла пра Беларусь, якая змянілася літаральна за некалькі апошніх месяцаў, пра абуджэнне мільёнаў грамадзян, якія хочуць, каб прэзідэнцкія выбары нарэшце прайшлі ў краіне празрыста, без фальсіфікацый.

Раз за разам над паркавай прасторай раздаваліся апладысменты ў падтрымку выступоўцаў. Як напісаў адзін сайт, атмасфера была як на рок-канцэрце: людзі апладзіравалі, скандзіруючы імя кандыдата “Све-та!”, чуліся воклічы “Сва-бо-ды!”.

**Віктар ВАЛЯР’ЯНАЎ.**

**БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ**



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

# Ці дапаможа лазня пані Канапацкай?

Кандыдат у прэзідэнты Ганна Канапацкая ад сціпласці відавочна не памрэ. Былая дэпутатка Палаты прадстаўнікоў заявіла, што ў цяперашняй прэзідэнцкай кампаніі ўдзельнічаюць толькі два сур’ёзныя палітыкі – яна ды Аляксандр Лукашэнка.

Між тым вобраз Канапацкай шмат у каго трывала асацыіруецца найперш са шлейфам скандалаў: яе выключылі з Аб’яднанай грамадзянскай партыі, не дапусцілі да апазіцыйных праймерыз, яна пацярпела фіяска, спрабуючы арганізаваць кампанію “Наперад, Беларусь!”. Нарэшце, на цяперашніх выбарах Цэнтрвыбаркам дзіўным чынам налічыў гэтай прэтэндэнтцы значна болей подпісаў за вылучэнне, чым яна, паводле ўласнай заявы, здала.

А яе спроба заднім днём патлумачыць фенаменальны вынік прывяла да новага скандалу. Канапацкая сказала, што на адным БелАЗе пашэнціла сабраць аж восем тысяч подпісаў. Між тым пазней высветлілася, што ва ўсім Жодзіне за яе сабралі толькі 83 подпісы.

І вось вам новая заява з разраду “хоць стой, хоць падай”. Былая дэпутатка адмовілася ад удзелу ў дэбатах кандыдатаў, ды ў якім стылі: *“Як дасведчаны і сталы палітык я не маю ні права, ні жадання спаборнічаць з загадзя больш слабымі апанентамі. Удзельнічаць у дзіцячым шоу пракрамлёўскіх марыянетак, якое складаецца з хлопчыкаў-спойлераў і дзяўчатак-рагатушак, дазволіць сабе не магу ніяк. Мне неўзабаве яшчэ краінай кіраваць”*.

Адна рэч – абгрунтаваная крытыка палітычных сапернікаў, але ж тут – проста кактэйль з нахабнай самаўпэўненасці і ярлыкоў. Калі гэта пракрамлёўскія марыянеткі, а Канапацкая такая палымяная патрыётка, што гатова ўсіх парваць за незалежнасць, то лагічна было б акурат даць ім бой, вывесці на чыстую ваду. Ці, акрамя ярлыкоў, нічога ў арсенале і няма?

Раней Канапацкая казырнула тым, што яна, маўляў, ці не “адзіны з усіх палітыкаў, хто дазваляў сабе казаць, што ў Беларусі дыктатура”. Але ж дэ-факта экс-дэпутатка імпэтна дапамагала ўладам “мачыць” былога кіраўніка “Белгазпрамбанка” Віктара Бабарыку, які, вырашыўшы пайсці на выбары, аказаўся фігурантам крымінальнай справы ды трапіў у следчы ізалятар КДБ. Закіды Канапацкай на адрас Бабарыкі (з метафарамі кшталту “педафіл не можа быць выхавацелем у дзіцячым садку”) гучалі ва ўнісон з чорным піярам дзяржаўных СМІ. Гэта не палітычная палеміка, а ўтоптванне ў бруд таго, хто цяпер нават не можа адказаць. Я ўжо не кажу пра тое, што ёсць элементарная прэзумпцыя невінаватасці: суда і прысуду яшчэ не было.

Таксама Канапацкая раздзімае выгадную кіроўным вярхам тэму вонкавай пагрозы на гэтых выбарах, заклікае даць *“адпор паўзучай гібрыднай агрэсіі рэакцыйных сіл суседняй дзяржавы”*, празрыста намякаючы на Расію. Але да агрэсараў не ездзяць на парады, з імі не братаюцца. Мы ж бачым, што Аляксандр Лукашэнка раз за разам сустракаецца з Уладзімірам Пуціным, прымае расійскага прэм’ера Міхаіла Мішусціна. Нешта не сыходзяцца канцы з канцамі.

Натуральна, у Масквы быў і застаецца вялікадзяржаўны інтарэс да Беларусі. Але на гэтых выбарах Крэмль відавочна не збіраецца валіць Лукашэнку. Тэза ж тутэйшай вярхушкі пра Айчыну ў небяспецы – проста банальны прапагандысцкі прыём, каб прыгожа абставіць жаданне любой цаной, любымі метадамі ўтрымаць уладу. Дык на чый жа млын лье ваду такая ўся незалежная з сябе экс-дэпутатка?

На думку іншага кандыдата ў прэзідэнты – Андрэя Дзмітрыева, *“Канапацкая сёння гуляе ў адной камандзе з Лукашэнкам”*, бо нічога не робіць, каб выбары былі сумленнымі, і *“вае з альтэрнатыўнымі кандыдатамі”*.

Сапраўды, у той час як логіка гэтай жорсткай кампаніі падштурхоўвае прыхільнікаў перамен да кансалідацыі, Канапацкая канцэнтруецца на прасоўванні тэзаў афіцыйнай прапаганды ды на выпадах у бок апанентаў афіцыйнага лідара. Некаторыя яе заявы настолькі адыёзныя, што ўзнікла версія: гэтая кандыдатка ў межах электаральнай кампаніі наўмысна выклікае на сябе негатыўныя эмоцыі праціўнікаў рэжыму, каб меней заставалася на долю Лукашэнкі.

Хтосьці параўноўвае ролю Канапацкай на гэтых выбарах з роллю Ксеніі Сабчак на расійскіх выбарах 2018 года. Але той ва ўсякім разе не адмовіш у таленце ды густоўнасці. У нашым жа выпадку пануе, кажучы маладзёжным слэнгам, поўны трэш.

Менавіта так расцаніла ладная частка палітызаванай публікі выстаўленае Канапацкай ў “Фэйсбуку” ўласнае фота, дзе яна ў будзёнаўцы парыцца ў лазні. Пры гэтым аўтарка допісу, у якім таксама ўтрымліваліся палітычныя філіпікі, зазначыла, што змывае з сябе мегабайты выдумак і бруду нейкіх тэлеграм-каналаў.

На маю ж думку, у гэтай кампаніі пані Канапацкая рызыкуе так запэцкацца, што лазня не дапаможа.

# Іх лёс хвалюе Беларусь!

## *Яны таксама маглі быць кандыдатамі ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь*



**Юрый ЗАХАРАНКА**
знік 7747 дзён таму



**Віктар ГАНЧАР**
знік 7615 дзён таму



**Анатоль КРАСОЎСКІ**
знік 7615 дзён таму



**Дзмітрый ЗАВАДСКІ**
знік 7320 дзён таму

В ПОСЛЕДНИЕ ДНИ

# О чем говорил Александр Лукашенко…



– У нас там просятся во власть, а они, оказывается, пороху не нюхали! Нам надо вплоть до Конституции записать определение, чтобы на должность Президента не мог претендовать человек, который не служил в армии.

***

– Чего бы нам ни стоило, нам надо активизироваться, не гляди ни на какие выборы, убрать хлеб. Выборы закончатся, а кушать надо будет и после 9 августа. И нельзя потерять этот год. Для Витебщины он очень показательный.

***

– Что греха таить, очень много проблем в ЕАЭС в плане того, что мы не выполнили то, о чем договаривались. У нас еще барьеров достаточно, межгосударственные границы у нас доведены в связи с барьерами до такой степени, что бизнес часто говорит: вы уж установите границы между государствами, нам будет проще и легче. Уже даже бизнес об этом заявляет. Вроде бы нет границ, а напряжение на границе напряженное.

***

– Узниками совести не будут. И вчера я приказал, чтобы сюда прибыли специалисты Интерпола, ЗША, Польши и России. И мы им покажем эти документы. Лукашенко кого-то боится или там действительно уголовные преступления?! Мы открыты.

ДА ЎВАГІ!

# Сёння кандыдаты на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выступяць па тэлебачанні

*Усе кандыдаты, акрамя Лукашэнкі, будуць мець магчымасць выступіць **з 17.00 да 19.00** на тэлеканале "Беларусь 1".*

Першай возьме слова Святлана Ціханоўская, затым – Ганна Канапацкая, Сяргей Чэрачэнь, Андрэй Дзмітрыеў. Кожнаму будзе прадастаўлены 30-хвілінны эфір.

З НАГОДЫ

# Станіслаў ШУШКЕВІЧ: «Гэта бяда таго пакалення…»




У сваёй праграме кандыдат у прэзідэнты **Сяргей Чэрачэнь** так выказаўся пра родную мову: *"Вучым англійскую, падтрымліваем беларускую, выкарыстоўваем рускую мовы. Добрае валоданне англійскай мовай – аснова развіцця навукі, бізнесу і інавацый. Беларуская мова – неад'емны элемент нашай нацыянальнай ідэнтычнасці, які трэба вывучаць і захоўваць на дзяржаўным узроўні, але без якога-небудзь прымусу".*

Што з гэтай нагоды думае экс-старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі **Станіслаў ШУШКЕВІЧ**, які з'яўляецца даверанай асобай Чэрачня?

– Бяда таго пакалення, да якога адносіцца і Сяргей Чэрачэнь, што гэтыя людзі раслі ў той час, калі была занядбана беларуская мова, – кажа Станіслаў Станіслававіч. – Рабілася ўсё, каб была прарасійская атмасфера.

Моладзь вучылася і выхоўвалася ў такіх умовах, і сёння многія саромеюцца, што не вельмі дасканала валодаюць беларускай мовай. Ім сорамна, што дапускаюць у размове шмат памылак, і яны кажуць, што лепш размаўляць на рускай. Але калі трэба, то яны пераходзяць на беларускую. У тым ліку і Чэрачэнь.

**– Вы будзеце як давераная асоба браць удзел у сустрэчах з выбаршчыкамі?**

– Баюся, што здароўе не дазволіць гэта зрабіць, а зараз я і наогул сяджу на лецішчы ў самаізаляцыі. Але ў штабе Чэрачня працуюць дасведчаныя людзі, яны да мяне рэдка звяртаюцца.

**– Некаторыя выказваюць меркаванне, што Сяргей Чэрачэнь – гэта падстаўная фігура і ўлады яго адмыслова зарэгістравалі кандыдатам у прэзідэнты ў якасці спойлера. Што вы думаеце з гэтай нагоды?**

– Мяркую, непрыстойна так казаць пра чалавека, не маючы ніякіх нармальных доказаў.

**– Вы верыце, што Чэрачэнь рэальна назбіраў 100 тысяч подпісаў?**

– Веру, бо ўсё было зроблена сумленна і зроблена на грошы Сяргея Чэрачня. Гэта не значыць, што яны плацілі за подпісы. За грошы ўсё арганізоўвалі, ладзілі паездкі і сустрэчы, праводзілі пікеты і куплялі каву для пікетчыкаў. І хачу падкрэсліць, што гэта ўласныя грошы Чэрачня, які мае свой бізнес. Ён пэўным чынам зарабляў і рыхтаваўся да такой падзеі.

**– Можа быць, Сяргею Чэрачню варта было б зняцца на карысць Святланы Ціханоўскай і аб'яднацца з яе штабам?**

– Па-першае, я вельмі абураны тым, што не далі зарэгістравацца Віктару Бабарыку, а замест гэтага на яго завялі крымінальную справу. Гэта цікавы чалавек, які мае вялікі досвед.

Нічога не меў бы супраць і рэгістрацыі Валерыя Цапкалы, хаця ведаю яго не толькі са станоўчага боку. Але мы бачым, што менавіта гэтых людзей больш за ўсё баіцца ўлада.

А што тычыцца таго, удзельнічаць у выбарах альбо зняць сваю кандыдатуру, то гэта будзе вырашаць штаб. Думаю, калі Сяргей убачыць, што зняцце кандыдатуры пойдзе на карысць пераўтварэнням у Беларусі, то ён здыме сваю кандыдатуру. Ён не з тых людзей, хто чапляецца за званне кандыдата ў прэзідэнты. І я давяраю Сяргею Чэрачню…

**Алесь СІВЫ.**

ДАРЭЧЫ

# Агітацыйных пікетаў пакуль не было…

Агітацыя ўжо пачалася, але акцый, якія ладзіла б каманда Чэрачня, у мінулыя выхадныя не было. Чаму? З гэтым пытаннем мы звярнуліся да самога кандыдата ў прэзідэнты.

*– Мы пакуль распрацоўваем канцэпцыю правядзення больш маштабных мерапрыемстваў, – кажа **Сяргей Чэрачэнь**. – Не хочацца ж дрэнна рабіць, таму плануем мітынгі-канцэрты. Зараз ідуць перамовы з тымі, хто дасць згоду на выступленне.*

*З месцам пакуль яшчэ не вызначыліся, але, магчыма, першы такі мітынг пройдзе 21 альбо 22 ліпеня.*

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Андрэй Дзмітрыеў застаецца пры сваёй пазіцыі

Агітацыйную прастору альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты ўлады, як вядома, звузілі да месцаў, дзе звычайна нешматлюдна. Вось і ў мінулую суботу Андрэю Дзмітрыеву давялося правесці першы пікет пры такіх абставінах.

Пра што вялася размова? Беларусы спадзяюцца на тое, што ў рэшце рэшт улада ўсё ж зменіцца, паколькі выпрацавала яна свой рэсурс. Без



палітычных, эканамічных і сацыяльных рэформаў не можа быць станоўчага развіцця краіны, павышэння дабрабыту народа.

Андрэй Дзмітрыеў застаецца пры сваёй пазіцыі: калі ён стане Прэзідэнтам, то ў хуткім часе прызначыць новыя выбары, якія пройдуць не так, як яны арганізаваны цяпер лукашэнкаўскімі ўладамі, а з захаваннем усіх дэмакратычных нормаў.

**Вера КАЗЛОВА.**

СЛЫШАЛИ?

# Виктор Бабарико требует от Белтелерадиокомпании опровергнуть сведения, приведенные в репортажах «Беларусь 1»

Адвокаты Виктора Бабарико Дмитрий Лаевский и Наталья Мацкевич рассказали об ответе Виктора Бабарико на сюжеты «Беларусь 1» о деле «Белгазпромбанка» и на слова президента о том, что Бабарико *«зарыдал, когда не зарегистрировали, и начал показания давать»*.

Накануне на «Беларусь 1» вышел сюжет, в котором Александр Лукашенко заявил, что так называемое дело «Белгазпромбанка» – *«не политический заказ»* и что все проходящие по нему *«дают показания»*.

– Но вор должен сидеть в тюрьме, ко всем должно быть одинаковое отношение. И еще раз хочу подчеркнуть то, что я сказал на Витебщине – в Полоцком районе, в Полоцке – и сейчас повторю: узником совести из них никто не станет – все эти сидельцы, а их там уже под 30 человек, все дают показания. И этот уже зарыдал, когда не зарегистрировали, и начал показания давать. Поэтому узником совести не будет. И вчера я приказал следователям и Комитету госбезопасности в прокуратуру подготовить все материалы для того, чтобы сюда прибыли специалисты Интерпола, США, Польши и России, мы им покажем эти документы. Лукашенко кого-то боится или там действительно уголовное преступление. Поэтому мы открыты, – заявил Лукашенко.

TUT.BY попросил адвокатов Виктора Бабарико прокомментировать эту информацию. Мацкевич и Лаевский сообщили, что после заседания ЦИК, где было решено не регистрировать Бабарико кандидатом в президенты, допросы или другие следственные действия с Бабарико не проводились.

**– Как Виктор Бабарико отреагировал на репортаж Белорусского телевидения, в котором цитировались слова Александра Лукашенко, что Бабарико «зарыдал» и «начал давать показания»?**

– Сегодня мы посещали Виктора Дмитриевича, обсуждали этот вопрос. Виктор Дмитриевич решил направить в Белтелерадиокомпанию на основании Закона «О СМИ» требование об опровержении этих сведений и отдельных утверждений из репортажа «Дело Белгазпромбанка»: куда текли долларовые реки» как не соответствующих действительности и порочащих его честь и достоинство. Это требование он подписал при нас и передал администрации СИЗО для направления по адресу, – ответили адвокаты.

*(TUT.BY)*

ПРАТЭСТ

# Ала БЕРНАЛЬ: «З чыноўнікаў ніхто не прыязджаў»

*З 16 ліпеня ў вёсцы Востраў Пухавіцкага раёна трымаюць галадоўку тры жанчыны.*




**Ала Берналь, Алена Кузьміна** і **Ірына Агароднік** – актывісткі руху "Маці 328". Жанчыны змагаюцца за справядлівыя прысуды і змяншэнне тэрмінаў зняволення па вядомым "наркатычным" артыкуле 328 Крымінальнага кодэкса.

Паводле слоў заснавальніцы руху **Ларысы Жыгар**, гэта ўжо трэцяя галадоўка.

*"У першы раз жанчыны вытрымалі 14 дзён, у другі – 22 дні, – кажа яна. – Гэтая галадоўка лічыцца бестэрміновай, і людзі паступова будуць далучацца. Ужо сёння некаторыя прыязджаюць у вёску, каб аказаць маральную падтрымку.*

*Яшчэ напярэдадні галадоўкі быў пастаўлены ў вядомасць пра акцыю Пухавіцкі райвыканкам, а таксама мы даслалі пісьмовы запыт медыкам. Усё-такі людзі павінны быць пад наглядам урачоў.*

*Аснóўныя патрабаванні – гэта сустрэча з прэзідэнтам і амністыя для асуджаных па "наркатычным" артыкуле. Абяцалі ж памілаванне, але да гэтага часу ніводны чалавек не быў памілаваны".*

– З ежы нічога не ўжываем, п'ем толькі ваду з лімонным сокам, – дадае **Ала БЕРНАЛЬ**. – Усе ўжо пахудзелі на 3–5 кілаграмаў, а Ірына Агароднік скардзіцца, што ў яе пачаліся галаўныя болі. Дзякуй Богу, што яшчэ галадоўка на свежым паветры праходзіць

**– Можа быць, ужо прыязджалі якія-небудзь чыноўнікі, вялі з вамі нейкі дыялог?**

– Наогул ніхто намі не цікавіўся і не прыязджаў.

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

SOS!

# Белорусская экономика работает на склад

*Это следует из цифр официальной статистики. Сгладить глубину падения помогло накопление рекордных запасов. Теперь в промышленности склады завалены так, как это было в кризисном 2015 году.*

В первом квартале ВВП Беларуси сократился на 0,3%. Этот спад был вызван дефицитом поставок российской нефти на «Нафтан» и Мозырский НПЗ. По-настоящему кризис затронул белорусскую экономику во втором квартале.

Данные статорганов свидетельствуют, что в апреле–июне ВВП снизился примерно на 3%. Более точная информация будет известна через пару месяцев, когда Нацбанк обнародует откорректированную информацию по ВВП.

Статорганы не публикуют такие сведения в оперативном режиме и предоставляют помесячные данные о ВВП лишь госорганам. Поэтому уточненные оценки по экономике приходится узнавать окольными путями.

ВВП за 6 месяцев сократился на 1,7%. За это время в ценах 2019 года экономика недосчиталась около 1 миллиарда белорусских рублей добавленной стоимости.

Запасы готовой продукции на предприятиях промышленности 1 июля достигли 5,524 миллиарда белорусских рублей, или 78,1% от месячного выпуска. Годом ранее складские запасы были на 671 миллион белорусских рублей ниже и составляли 63,4% от выпуска за месяц.

1 июля 2020 года сложилось самое плохое соотношение складских запасов и месячного выпуска за аналогичные даты последних 6 лет. Можно сказать, что власти добились меньшего сокращения ВВП за счет накопления складских запасов. По нашим оценкам, если бы не это, экономика Беларуси в первой половине года упала на 2–2,5%.

ВВП за июнь сократился на 1,2%, что меньше, чем в апреле и мае, когда падение составляло около 4%. Производство продукции в промышленности выросло на 0,9%, розничный товарооборот увеличился на 0,8% (после 2 месяцев снижения), ввод жилья в эксплуатацию вырос на 1,7%, производство сельхозпродукции добавило 2,8%. Впрочем, главным драйвером экономики остался IT-сектор. Валовая добавленная стоимость айтишников в июне выросла на 11,1%. Для сравнения: у аграриев добавленная стоимость увеличилась на 3,9%, а у остальных – и того ниже.

Больше всего тянул экономику вниз транспортный сектор. Валовая добавленная стоимость упала за июнь на 30%. Это произошло за счет сокращения перевозок пассажиров (на 25,7%). Пассажирооборот по Беларуси снизился еще круче – на 53,7%.

Также в мощном минусе застряла сфера общественного питания. Товарооборот общепита в июне обвалился на 35,1%. Инвестиции в основной капитал за июнь сократились на 12,5%. В связи с этим база для возобновления роста экономики пока крайне слабая.

*(Банки24.бай.)*



НОВОСТЬ!

# Спустя 12 лет назначен посол Беларуси в США

*Послом Беларуси в США назначен заместитель министра иностранных дел Олег Кравченко. Белорусского посла в Америке не было 12 лет.*



До «похолодания» в двусторонних отношениях Кравченко уже работал в Посольстве Беларуси в США. В 2007 году он был советником Посольства Беларуси в США, с 2008-го по 2014-й – Временным Поверенным в Делах Беларуси в США.

В 2014 году Кравченко вернулся в Минск и возглавлял отдел США и Канады управления Америки, а затем – управление Америки МИД. На пост замминистра был назначен в 2017 году.

Олег Кравченко родился в 1971 году в Минске. Окончил юридический факультет БГУ, аспирантуру Института философии и права Национальной академии наук Беларуси. Кандидат юридических наук.

Дипломатическую службу начал в 1994 году в качестве атташе, а затем занимал различные посты в отделе Договорно-правового управления Министерства иностранных дел. В 1999-м был назначен советником Посольства Республики Беларусь в Швеции, с 2003-го работал в отделе управления гуманитарного сотрудничества и прав человека МИД. Затем продолжил карьеру в Посольстве Беларуси в США.

В последние несколько лет Олег Кравченко не раз посещал Вашингтон с официальным визитом и представлял Беларусь на различных переговорах и встречах с американскими коллегами.

БЕЗ РЕТУШЫ



Валерий КАРБАЛЕВИЧ

# Раскол

Много лет Александр Лукашенко и государственная пропаганда внушают обществу тоталитарную концепцию, будто в Беларуси построено такое государство, которое выражает, защищает, гармонизирует интересы всего народа и пользуется единодушной поддержкой граждан. При этом подчеркивается, что в стране *«отсутствует почва для социальных противоречий и конфликтов»* («Советская Белоруссия», 24 мая 2006 года).

Все это время государственные СМИ настойчиво убеждали, что в Беларуси утвердилась *«общенародная государственная идеология»*, которая является отражением *«идеологического единства нашего народа»* («Советская Белоруссия», 28 июля 2006 года). Не удивительно, что после очередных выборов (2006 года) Лукашенко заявил, что *«за действующего президента проголосовало практически все население»* («Советская Белоруссия», 29 апреля 2006 года).

Таким образом, официальная идеологическая концепция отвергала в принципе возможность существования даже «конструктивной оппозиции». Поскольку весь белорусский народ поддерживает президента и его политику, то никаких политических оппонентов в стране нет и быть не может. *«Сегодня вряд ли найдется разумный человек в нашей стране, который в целом подверг бы критике политику, которую проводит руководство»,* – утверждал Лукашенко («Народная Воля», 20–23 марта 2009 года). Иначе говоря, оппозиция – это люди, просто сошедшие с ума, ибо только ненормальные могут выступать против «народного президента». Или второй вариант – это коллаборационисты, продавшие родину западным хозяевам, *«пятая колонна»*. В любом случае, это *«отморозки»*, *«враги народа»*. Поэтому в отношении них можно использовать любые репрессии.

Примерно такие же идеи государственные СМИ пытаются внушить обществу и сейчас. Печально известный журналист Андрей Муковозчик по итогам встречи Александра Лукашенко с представителями госмедиа 9 июля писал в «СБ. Беларусь сегодня» (так сегодня позиционируется «Советская Белоруссия») об угрозе, якобы исходящей со стороны альтернативных кандидатов, *«расколоть белорусское общество»*, о необходимости *«сплотиться»* вокруг президента и т.д.

На самом деле белорусское общество, как мне видится, давно и глубоко расколото. Долгие годы этот раскол проходил между властью, опиравшейся на поддержку относительного большинства белорусского общества, и оппозиционной частью населения.

Такая ситуация раскола характерна для трансформационных обществ. Однако в Беларуси социально-политический раскол имеет особый характер в связи с затянувшимся идеологическим кризисом, нерешенностью проблемы исторического выбора, геополитической ориентации. Белорусский раскол касается фундаментальных мировоззренческих ценностей. Если в других странах глубокие социальные, политические противоречия уравновешиваются единством в вопросах национальной, этнокультурной идентификации, то здесь ситуация другая. Например, вопрос о роли белорусского языка становится дополнительным триггером для конфликта.

Мировоззренческий раскол пронизывает все сферы общественной жизни: науку, искусство, спорт и др. Даже на международных футбольных матчах болельщики болеют за свою команду под разными флагами: официальными и оппозиционными. Раскол распространился и на белорусскую диаспору.

В других странах преодолеть раскол, объединить народ помогала угроза социальной или природной катастрофы, общенациональная трагедия. Срабатывал инстинкт самосохранения социума. В Беларуси ситуация иная. Внешние катаклизмы, на мой взгляд, лишь углубляют раскол.

Например, не стала фактором консолидации Чернобыльская трагедия. Наоборот, ежегодно день годовщины аварии на АЭС 26 апреля становится моментом наиболее острого политического противостояния.

То же самое случилось и с пандемией коронавируса. Она не только не способствовала сплочению общества, а, наоборот, стала мощным катализатором недоверия населения к власти.

Однако все многообразие различий находит свое концентрированное выражение в политике. Мировоззренческий раскол все больше приобретает социально-политический характер. Если в обыденной жизни, в житейских делах люди все же находят компромиссы, то в политической сфере противоречия нарастают и становятся все более непримиримыми. Развитие интернета сделало этот конфликт и раскол еще более выпуклым и очевидным.

Важным фактором, усиливающим политическое противостояние в Беларуси, является личность президента Александра Лукашенко и проводимая им политика. С самого начала своего пребывания в нынешней должности он постоянно демонстрирует бескомпромиссность, заряженность на конфликт с политическими противниками. Врагомания, искусственное провоцирование общественной конфронтации стали составной частью имиджа Лукашенко, способом его политического выживания.

Нынешняя избирательная кампания вытащила общественно-политический конфликт на поверхность, сделала его явным и зримым, даже в каком-то смысле легитимировала его. Поменялась и линия общественного разлома.

На смену прежнему расколу между властью и оппозиционной частью общества пришел раскол между властью и обществом. Конечно, есть какая-то часть населения, которая поддерживает Лукашенко. Но ее никак не видно на информационно-политическом экране страны (если не считать, конечно, штатных пропагандистов). Люди, выступающие против правящего режима, видны на каждом шагу, они выходят на улицы, проводят массовые протестные акции… А сторонников режима не видно совсем. От их имени говорит исключительно власть, ее институты, государственные СМИ.

Многие слои населения впервые заинтересовались политикой. Включившись в активную гражданскую жизнь, они с удивлением увидели, что их интересы никак не представлены в государственных институтах. Парламент и местные Советы абсолютно стерильны, представляют исключительно саму власть. Демократически настроенные люди попытались попасть в избирательные комиссии, но их грубо отфутболили. Представьте ситуацию: те, кто подвергает власти критике, представлены в избирательных комиссиях в количестве 0,009 процента.

В такой ситуации правящий режим может удержаться, только опираясь на силу, политические репрессии, которые должны носить перманентный характер. Общественный раскол приобретает гораздо более драматические формы. И в рамках существующей социальной модели и политического режима преодолеть этот конфликт невозможно. Ибо для этого нужны демократические институты и механизмы, которые в Беларуси отсутствуют.

ТАМ, У РЭГІЁНЕ

# Што хвалюе Дзяніса Дашкевіча…



*Пра Дзяніса Дашкевіча з Рагачова “Народная Воля” пісала не аднойчы. Яму, чалавеку з апазіцыйнымі поглядамі, мясцовыя ўлады прапанавалі пасаду ў дзяржаўнай установе. І ён на практыцы пацвердзіў свае прафесійныя здольнасці. Пад яго кіраўніцтвам Цэнтр культуры ў аграгарадку Побалава стаў адным з лепшых у раёне.*

*І ўсё ж малады чалавек не задаволены тым, што адбываецца ў іх рэгіёне і ў цэлым у краіне. Сёлета яго абурыла сітуацыя з подпісамі за вылучэнне ў кандыдаты на пасаду прэзідэнта Валерыя Цапкалы. І Дзяніс вырашыў выказацца публічна.*

– У ініцыятыўнай групе Цапкалы я не быў, але даўно сачу за ім і яго дзейнасцю. Мне заўсёды імпанаваў яго стыль кіравання ПВТ. І калі я даведаўся, што ён ідзе ў кандыдаты ў прэзідэнты, пісаў пра яго на старонках “Рогачев online”.

Але кіраўніцтва мясцовага аддзела ідэалогіі некалькі разоў папярэдзіла, што непажадана, каб дзяржслужачыя выказвалі публічную падтрымку камусьці з кандыдатаў, акрамя Лукашэнкі. Маю пазіцыю чыноўнікі ведаюць, яна асабліва ніколі не мянялася. І мяне запрашалі на размовы, казалі, каб я не выказваўся публічна, бо займаю кіраўнічую пасаду. Размаўлялі са мною тэт-а-тэт, але ведаю, што на такія размовы выклікалі і іншых работнікаў культуры.

Прамых пагроз не было, але казалі, што могуць быць наступствы. Якія менавіта – не ўдакладнялася.

Такіх размоў было некалькі. Я адказваў, што Цапкала не прадстаўнік сістэмнай апазіцыі, па сутнасці, ён прадстаўляе IT, сферу інфармацыйных тэхналогій. Улічваючы, што я рэдактар анлайн-выдання, фактычна сам працую ў сферы інфармацыйных тэхналогій, то і Цапкала мне сімпатычны ў першую чаргу па гэтай прычыне, а не таму, што я супраць Лукашэнкі. Мне падабаецца сама ідэя развіцця Беларусі як дзяржавы з лічбавай эканомікай.

Некалькі разоў я абазначаў гэту сваю пазіцыю. Але мяжой стала тое, што ў Цапкалы не прынялі некалькі дзясяткаў тысяч подпісаў. Я бачыў на свае вочы пікеты за яго вылучэнне ў Рагачове, бачыў, колькі людзей на іх было. І калі паведамілі, што з рагачоўскіх подпісаў прынялі толькі 261, для мяне гэта стала нейкай апошняй кропляй.

Я тады паставіў усіх перад фактам, што буду пісаць і казаць тое, што я хачу, што буду заклікаць людзей абараняць свае подпісы. Калі будуць суды, буду хадзіць падтрымліваць, выступаць сведкам. Бо тое, што ў Рагачове сапраўдны толькі 261 подпіс за Цапкалу, – гэта абсурд!

*Але ж колькі ўжо вядомых людзей згубілі дзяржаўную працу пасля пастоў у сацыяльных сетках! Ці не баіцца такіх жа наступстваў Дашкевіч?*

– Не баюся. Я гатовы да звальнення. Шчыра кажучы, я думаў і сам, што ўвосень буду ці то сыходзіць з пасады кіраўніка Цэнтра культуры, ці то перавядуся на палову стаўкі. Пакуль канчатковае рашэнне не прыняў, пабачым, што адбудзецца 9 жніўня, да якога маразму далей дакоціцца дзяржава.

Тое, што адбываецца сёння ў сферы культуры, – дэградацыя і поўны развал. Асабліва заўважна гэта стала ў апошні год. Працаваць там творчым людзям становіцца проста немагчыма. Ідуць скарачэнні, якія намагаюцца схаваць, але ж я бачу сітуацыю знутры. У нас сур’ёзны эканамічны крызіс, сур’ёзны дэфіцыт бюджэту ў раёнах, прынамсі ў Рагачоўскім. Беспрацоўе расце шалёнымі тэмпамі, а цяпер яшчэ і вярнуліся гастарбайтары, якія працавалі ў Расіі. Рэальная лічба беспрацоўных у Рагачове – працэнтаў 20, гэта мінімум!

У культуры заробкі таксама мізэрныя. Я як дырэктар зарабляю прыкладна рублёў 550. З іх каля 100 рублёў сыходзіць на дарогу.

*Таксама Дашкевіч пісаў у “Фэйсбуку”, што цяпер ідэолагі прыдумалі новую “фішку”: замест дыскатэк у клубах і дамах культуры нібыта будуць праводзіцца “інфармацыйныя вечары”. Але, як тлумачыць Дашкевіч, гэта і так, і не так.*

– Была планёрка ў аддзеле культуры райвыканкама. Паведамілі, што дыскатэкі праводзіць можна, але ж нельга пісаць, што гэта дыскатэкі. То-бок праводзіцца ўсё тое самае, што і было, але ў афішах, аб’явах і дакументах цяпер трэба пісаць, што гэта “інфармацыйна-забаўляльныя вечары”, – *тлумачыць Дзяніс.* – Гэта патлумачылі тым, што трэба перадаць у Мінск звесткі пра пашырэнне формаў працы. Маўляў, праходзяць не толькі дыскатэкі і канцэрты, а яшчэ ідзе і праца ў інфармацыйным полі. Але па сутнасці гэта паказуха і падмена паняццяў. У нас была якраз эмацыйная гутарка сёння з начальніцай з аддзела ідэалогіі. Я тлумачыў, што трэба называць рэчы сваімі імёнамі: калі гэта дыскатэка, то так і пісаць. А то тое, што адбываецца ў сферы культуры, пачынае нагадваць Паўночную Карэю.

*Дашкевіч кажа, што чыноўніцкі бюракратызм выбівае з каляіны не толькі яго. Людзі не проста абураюцца, але ўжо гатовы заняць прынцыповую пазіцыю ў адстойванні сваіх правоў.*

– У рэгіёнах закіпае ўсё нашмат сур’ёзней, чым у вялікіх гарадах. Бо незадаволеных – 90 працэнтаў, людзі ў шаленстве. Многія дзяржслужачыя таксама незадаволены: заробкі мізэрныя, дакументаабарот не памяншаецца, а толькі павялічваецца. Апошнія два месяцы ўвогуле нейкі тэрор: колькасць дакументацыі вырасла настолькі, што незразумела, хто чым займаецца. Прычым самі ведамствы дубліруюць працу адно аднаго. Напрыклад, у пасёлках і райцэнтрах ёсць сем’і ў сацыяльна небяспечным становішчы. Імі займаюцца і сацслужбы, і аддзел адукацыі, і аддзел культуры, і міліцыя. Я як кіраўнік Цэнтра культуры не разумею, навошта нам выконваць працу, за якую мусяць адказваць сацыяльныя работнікі. Гэта абсурд! А за кожнае дзіця ў такіх сем’ях трэба адпраўляць справаздачу штотыдзень! Гэта нейкая лухта, прынамсі год таму такога не было.

Асобна трэба пісаць справаздачы па непаўналетніх, асобна – па працы з пенсіянерамі… Напрыклад, праходзіць канцэрт: як мне палічыць, колькі на ім было пенсіянераў, колькі непаўналетніх, колькі дзяцей з нешчаслівых сем’яў? Як гэта кантраляваць?

Але ж усе вымушаны пісаць гэтыя справаздачы. Большасць інфармацыі бярэцца проста з галавы. Квітнее сістэма прыпісак. Даходзіць да абсурду: у некаторых населеных пунктах жыве 500 чалавек. І ў іх Доме культуры паводле папер нібыта праходзіць 700 мерапрыемстваў за год. А ў наступным годзе трэба ж, каб не ўпалі паказчыкі, – адпаведна, у наступнай гадавой справаздачы малююць 770 мерапрыемстваў, тыпу на 10 працэнтаў больш.

І даходзіць да таго, што ў некаторых вёсачках нібыта праходзіць аж па 2000 мерапрыемстваў за год!

Людзі там цэлымі днямі толькі сядзяць, запаўняюць паперы, выдумваючы мерапрыемствы, якія нібыта адбыліся.

І так працуе ўся сістэма бюджэтная, – *наракае Дашкевіч.*

*(Паводле NN.)*

ПАРАЛЛЕЛИ

# Где самые лучшие пенсии?

*«Народная Воля» поинтересовалась, какую пенсию по возрасту получают в некоторых зарубежных странах и у нас.*

## Страны СНГ

| Страна | Возраст выхода на пенсию | | Средний размер пенсий, в долларах | Продолжительность жизни, лет |
|---|---|---|---|---|
| | Для женщин | Для мужчин | | |
| Россия | 55.5 | 60.5 | 230 | 66.9 |
| Азербайджан | 60.5 | 63.5 | 176 | 70.3 |
| Армения | 63 | 65 | 82 | 71.2 |
| Беларусь | 58 | 63 | 195 | 74.2 |
| Казахстан | 58 | 63 | 199 | 68.8 |
| Киргизия | 53 | 58 | 75 | 67.3 |
| Молдова | 63 | 63 | 80 | 67.5 |
| Таджикистан | 58 | 63 | 57 | 68.7 |
| Узбекистан | 55 | 60 | 55 | 69.4 |
| Украина | 59.6 | 60 | 125 | 67 |

## Страны Европы

| Страна | Возраст выхода на пенсию | | Средний размер пенсий, в евро | Продолжительность жизни, лет |
|---|---|---|---|---|
| | Для женщин | Для мужчин | | |
| Австрия | 60 | 65 | 1400 | 81.4 |
| Бельгия | 65 | 65 | 865 | 81.5 |
| Болгария | 61.2 | 64.1 | 210 | 71.4 |
| Германия | 65.7 | 65.7 | 850 | 81.2 |
| Греция | 67 | 67 | 700 | 82.1 |
| Дания | 65 | 65 | 2500 | 80.8 |
| Испания | 65.5 | 65.5 | 987 | 83.4 |
| Италия | 67 | 67 | 1200 | 83.4 |
| Латвия | 63.9 | 63.9 | 320 | 70.1 |
| Литва | 62.4 | 63.8 | 374 | 74.7 |
| Польша | 60 | 65 | 460 | 78.5 |
| Чехия | 62.8 | 63.4 | 430 | 79.2 |
| Эстония | 63.5 | 63.5 | 420 | 78.6 |

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА




АСОБЫ

Раіса МІХАЙЛОЎСКАЯ:

# «Фільм жыве да гэтага часу…»

*“Народная Воля” пацікавілася, чым сёння займаюцца аўтары дакументальнага фільма пра зніклых палітыкаў, які быў паказаны пяць гадоў таму.*

Стваральнікі фільма “Банда” – беларускія рэжысёры **Павел Бандзіч** і **Яўген Шапчыц**, аўтары сцэнарыя – **Раіса Міхайлоўская** і **Марына Бяляцкая**. Творчая група працавала над фільмам амаль год. Аўтары сістэматызавалі падзеі, дакументы, сведчанні пацярпелых і асоб, якія маюць дачыненне да палітычных знікненняў.

*“Упершыню фільм быў паказаны ў снежні 2014 года ў Вашынгтоне,* – кажа **Раіса Міхайлоўская**. – *Быў перакладзены на англійскую, польскую і чэшскую мовы і прэзентаваны ў Беларусі, ЗША, Швецыі, Польшчы і Літве. Фільм без праблем можна знайсці ў інтэрнэце, таму ён жыве да гэтага часу”.*

Зараз Раіса Міхайлоўская ўзначальвае Беларускі дакументацыйны цэнтр, які ў 2012 годзе быў зарэгістраваны ў Літве па ініцыятыве беларускіх праваабаронцаў, адвакатаў, юрыстаў і сваякоў палітычных зняволеных.

*“Мэта нашага цэнтра – захаванне гістарычнай і юрыдычнай памяці беларускага народа, садзейнічанне ў аднаўленні сацыяльнай і гістарычнай справядлівасці і дапамога рэпрэсаваным,* – дадае праваабаронца. – *Акрамя таго, у рабочай групе Камітэта па правах чалавека ААН я выступаю як давераная асоба сем’яў зніклых беларускіх палітыкаў”.*

А вось **Марына Бяляцкая** кажа, што на сёння ў яе няма ніякіх праектаў і сталай працы.

*“Зараз я простая хатняя гаспадыня”,* – удакладняе яна.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
21 ЛІПЕНЯ 2020 г.

САЛІДАРНАСЦЬ

# Шчэцін, Познань, Гданьск…



Не толькі ў Варшаве і Кракаве адбываюцца акцыі ў падтрымку беларусаў, якія адстойваюць права на дэмакратычныя перамены, на чэсныя, без фальсіфікацый выбары. 19 ліпеня ў знак салідарнасці з Беларуссю яны прайшлі ў Шчэціне, Познані, Гданьску…

На фота: Удзельнікі акцыі ў Гданьску фатаграфуюцца на фоне бел-чырвона-белага сцяга. (Даслаў Францішак Цярэшка.)

# Па берлінскіх вуліцах крочыць Беларусь




Як бачыце, гэты здымак зроблены ў Берліне. Там, як і ў многіх іншых краінах, праходзяць масавыя акцыі ў знак салідарнасці з Беларуссю. І ніхто людзей не разганяе, не кідае ў варанкі, не змяшчае за краты. Усё адбываецца мірна, спакойна, з прадастаўленнем людзям права на публічнае выказванне сваёй пазіцыі па пытаннях, якія іх хвалююць.

ОСОБЫЙ ВЗГЛЯД

## Сергей ЧАЛЫЙ, независимый аналитик:

# «Если жена приняла решение уйти…»

*– Александр Григорьевич думает, что его проблема 9–10 августа закончится. Но нет. Если жена приняла решение уйти, то можно еще какое-то время заставлять ее жить с тобой, но ни любви, ни уважения с ее стороны уже не будет. Вернуть любовь народа невозможно, а купить – денег нет,* – объясняет экономист. И следом вспоминает как пример завершение фильма «Царь»: Иван Грозный после очередной победы смотрит на пустой город и спрашивает: «Где мой народ?» А народ уже чужой.



Экономическое положение после выборов волшебным образом не исправится. Тем более с уходом правительства Сергея Румаса сузились шансы на преобразования, которые вывели бы экономику на путь роста.

*– Нам было сказано, что реформы возможны только как совершенствование прошлого. Фокус в том, что если ты зашел в тупик, то совершенствоваться дальше невозможно. Наша экономика зашла в тупик. А из него нет выхода вперед – только назад. Как в автомобиле: если вы заехали в тупик, то частью движения вперед будет возвращение назад,* – сказал в одном из интервью Сергей Чалый.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# І ўсё ж аштрафавалі

Гродзенец **Сяргей Калмыкоў**, які быў затрыманы разам з Ціханоўскім, але праз пару дзён адпушчаны з мінскага ізалятара, Ленінскім судом Гродна аштрафаваны на 30 базавых велічынь (810 рублёў) за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве. Па другім пратаколе, паводле якога яму прыпісвалі супраціўленне супрацоўнікам міліцыі, ён прызнаны невінаватым.



"Народная Воля" ў адным з папярэдніх нумароў падрабязна апісвала тое, як 29 мая Сяргей Калмыкоў разам з іншымі быў гвалтоўна затрыманы на плошчы Савецкай у Гродне. Дарэчы, ён быў першы, каго пасля затрымання праз некалькі дзён адпусцілі.

Аднак на яго, як і на іншых затрыманых у той дзень, акрамя ўзбуджэння крымінальнай справы нібыта за арганізацыю і ўдзел у масавых беспарадках гродзенскія міліцыянеры склалі адміністрацыйныя пратаколы за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве і непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі.

Першы суд па адміністрацыйных справах быў спынены, бо суддзя адправіла пратаколы на дапрацоўку. У другім пасяджэнні суддзя **Ларыса Барэль** прызнала Калмыкова вінаватым у тым, што ён браў удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве, і аштрафавала яго на 30 базавых велічынь (810 рублёў). А паводле артыкула 17.1 – непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі – Калмыкова апраўдала.

Атрымліваецца, што паводле меркаванняў суддзі Барэль, дазволены законам пікет па зборы подпісаў у падтрымку прэтэндэнтаў на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – несанкцыянаванае мерапрыемства? Вось дык логіка!

**Алесь МІХАЛЁЎ.**

АД СЭРЦА…

# Мы ўсе – суайчыннікі!

Па-першае, самыя шчырыя віншаванні маёй любімай "Народнай Волі" з 25-годдзем. Я зычу ўсім вам, мае дарагія, моцнага здароўя, цікавых матэрыялаў і годнай зарплаты. Заўсёды чакаю вас: і паплачаш, і пасмяешся. Такіх кранальных і шчырых нарысаў не знойдзеш ні ў адной з афіцыйных газет. Жыві і радуй нас, "Народная Воля"!

З апошніх публікацый прыемна ўражана пазіцыяй знакамітага Івана Вабішчэвіча, які дакладна ўгледзеў змены ў рэакцыі людзей на сённяшнюю сітуацыю ў краіне. Усё больш і больш беларусаў адкрыта і ўголас выказваюць сваю пазіцыю. Улада гэта бачыць, нярвуецца, баіцца і зноў перакладае клопат аб сабе на міліцыянтаў, АМАП, спецназ…

Калісьці беларуская міліцыя больш-менш была абаронцай людзей. Многія нашы артысты, у тым ліку і я, атрымлівалі граматы "Ганаровы выдатнік міліцыі". Шэфскія кантакты і давер тады былі, а цяпер нам страшна выйсці на вуліцу ў "недазволеным месцы". Людзей збіваюць і кідаюць за краты. Гэтыя відэакадры нагадваюць падзеі мінулай вайны. І я звяртаюся да тых, хто паводле Канстытуцыі павінен абараняць свой народ: "Стрымайце агрэсію і жорсткасць, не бярыць грэх на душу! Вашы дзеці і ўнукі вам не даруюць. Мы ўсе суайчыннікі!"

**Зінаіда БАНДАРЭНКА, народная артыстка Беларусі.**



СЕЗОННЫ РЭПАРТАЖ

# Бярыце ягадкі-грыбочкі – з радыяцыяй

*Карэспандэнт "Народнай Волі" наведаў гомельскія стацыянарныя і стыхійныя рынкі, дзе прадаюць дары лесу.*

З надыходам лета на ўсіх вялікіх і малых рынках Гомеля сталі прадаваць так званыя дары лесу – чарніцы, лісічкі, краснагаловікі, першыя баравікі. Што называецца, бяры не хачу. Браць грыбы ці ягады, калі яны не праверАны на радыяцыю, ніколі не хацелася і не хочацца.

На Цэнтральным рынку каля крамы "Агарод" маладая прадаўшчыца Юля Вараб'ёва нахвальвае чарніцы па 6 рублёў 20 капеек за кілаграм.

– Бярыце – яны з Акцябрскага раёна, чыстыя.

У прыметнік "чыстыя" Вараб'ёва дый усе іншыя гандляры ўкладваюць добра вядомы жыхарам рэгіёна сэнс: гэта значыць, без радыяцыі. Але пасля чарнобыльскай катастрофы на Гомельшчыне сапраўды чыстых ягад і грыбоў няма. Таму і прашу паказаць квіток праверкі чарніц у ветсанлабараторыі.

– У магазіне паглядзіце, – раіць прадавачка.

– Вы ж не маеце права прадаваць без праверкі.

Вараб'ёва знікае ў дзвярах "Агарода" і хутка вяртаецца:

– Пайшла жанчына ў лабараторыю – праз дзесяць хвілін будзе.

Аднак і праз паўгадзіны вынікаў праверкі чарніц на століку прадавачкі не было.

На тэрасе з боку вуліцы Катуніна смуглявыя дзяўчаты прадаюць чарніцы ў пакеце прама з бетоннай падлогі.

– І колькі цэзію ў вашых чарніцах? – пытаюся.

– Два рублі шклянка! – цвердзяць сваё маладыя зборшчыцы ягад.

– Талон праверкі ёсць?

Дзяўчаты паціскаюць плячыма і кажуць, што чарніцы збіралі ў лесе каля вёскі Прыбар.

Літаральна ў двух метрах ад моладзі чарніцы і лісічкі прапануе кабета ў гадах. У талоне праверкі запісана, што гэта спадарыня Корхава. А ў лісічках, якія яна выставіла на продаж, да 37 бекерэляў радыецэзію на кілаграм (Бк/кг). Лісічкі сапраўды больш-менш чыстыя, дакладней – умоўна чыстыя.

Тут мушу нагадаць пра рэспубліканскія дапушчальныя ўзроўні ўтрымання радыенуклідаў цэзію-137 у харчовых прадуктах (РДУ-99): свежыя лясныя ягады – 185 Бк/кг, грыбы – 370 Бк/кг. Дарэчы, у Японіі дапушчальны нарматыў у разы меншы – усяго 100 бекерэляў на грыбы і ягады з лесу.

## «Напарніца паехала ў лабараторыю»

На невялікім рынку пры вуліцы Юбілейнай з паўдзясятка прадаўцоў прапануюць чарніцы і лісічкі.

У спадарыні Вольгі жоўта-памаранчавыя грыбы ў прыгожых плеценых кошыках нібы самі просяцца: "Вазьмі!" Канешне, пытаюся ў Вольгі наконт праверкі на радыяцыю гэтага ляснога харាства.

– Ой, паехала напарніца ў лабараторыю – хутка прывязе. Харошыя лісічкі, не пашкадуеце. Раней я тут чарніцы прадавала. Праверачны талон вось застаўся.

У талоне значыцца, што Пастушэнка (пэўна ж, мая суразмоўніца) 30 чэрвеня праверала 5 кілаграмаў чарніц у ветсанлабараторыі міні-рынку "Аэрадром". Але што мне да тых колішніх ягад, калі размову мы вядзём 15 ліпеня пра лісічкі.

Суседні рад таксама прапануе лясныя дары. Прынамсі, індывідуальны прадпрымальнік, які назваўся Сяргеем, выставіў у стандартных пластмасавых скрынках чарніцы. У іх багата лісця ягадніка. Выглядае, што чарніцы збіралі механічнымі прыстасаваннямі, якія часцяком называюць камбайнамі. Цэннік указвае, што гаспадар хоча за кіло ягад 7 рублёў. У поліэтыленавых пакетах – лісічкі, недзе грамаў па 700–800 у кожным. Пяцёрка – і забірай.



Сяргей тлумачыць, што яго, так бы мовіць, даверанная асоба павезла лясную прадукцыю на праверку і хутка будзе. А збіралі грыбы і ягады ў Гомельскім раёне каля вёскі Даўгалессе. Там, маўляў, усе збіраюць. І нічога – ніхто не памёр.

## Капейчына з лесу – прыбаўка да пенсіі

У густанаселеным спальным мікрараёне "Валатава" каля магазінаў "Бранскі" і "Два гусакі" жанкі прадаюць лясныя чарніцы ды садовыя ягады наўпрост з асфальту. Гандаль стыхійны: сёння ёсць, заўтра няма. Ніхто з іх дары лесу і агарода не правяраў.

Бабуля паказвае пафарбаваныя чарніцамі пальцы: "Сама збірала, шклянка – паўтара рубля", – і называе вядомы блізу горада адносна чысты лясны масіў. А так гэта ці не, не вядома.

Пры мікрараёне месціцца вялікі рынак "Прудкоўскі". Добрая палова яго адведзена пад харчовыя тавары, у тым ліку і гародніну з садавінай. На гэтай жа палавіне пабудаваны не так даўно ладны павільён з надпісам "Сельскагаспадарчая прадукцыя. Арэнда". Пераважна тут і прадаюць грыбы і ягады ахвотнікі ў летні сезон зарабіць капейчыну на прадукцыі з лесу. Арэнда пагоннага метра прылаўка – ўсяго рубель.

Пенсіянерка Лідзія ў вялікіх аднаразовых шклянках прапануе гараджанам лісічкі. Яны правераныя, радыецэзію ў іх – 45 Бк/кг. Літровы слоік грыбоў з верхам – тры рублі.

– Раней я працавала настаўніцай, – кажа Лідзія. – Пенсія малая – усяго 350 рублёў. Як жыць? Вось і езджу, збіраю грыбы і прадаю. Гэтыя брала ў Рэчыцкім раёне, дзе станцыя Ліскі.

## Хаваць інфармацыю – шкодзіць здароўю

На рынку маецца лабараторыя ветсанэкспертызы. Яе загадчыца Ала Красільнікава, зазірнуўшы ў журнал, кажа, што ад раніцы бракаваных праз радыяцыю грыбоў і ягад не было.

Прашу загадчыцу паведаміць пра выпадкі выяўлення самых высокіх паказчыкаў утрымання радыецэзію ў сёлетніх дарах лесу. Адкуль іх вязуць? Людзі павінны ведаць, што радыяцыя нікуды не дзелася, і, крый Божа, не купляць неправераныя дары лесу ні на рынках, ні тым больш па-за іх межамі.

Ала Красільнікава на пару хвілін пакідае аўтара гэтых радкоў у калідоры лабараторыі, а вярнуўшыся, заяўляе: "Не магу даць такой інфармацыі – забаронена".

Цікаўлюся, канешне, хто забараніў: з мясцовай ветстанцыі? Можа, дэпартамент ветэрынарнага і харчовага нагляду Мінсельгаса?

– Астапенка, начальнік гарадской ветстанцыі забараніў, – удакладняе загадчыца лабараторыі.

16 ліпеня Дзмітрый Астапенка разложыста тлумачыў, што ён дакладна не ведае, адкуль прывезлі грыбы ды ягады, – усё ж запісваецца са слоў зборшчыка. Нехта мог і ў зону адсялення забрацца і там назбіраць. Мог праверыць адны ягады, а прадаваць іншыя. Лабараторыя магла забракаваць чарніцы ці лісічкі, а зборшчык крутнуўся – і прадае іх даверлівым гараджанам дзе-небудзь пад магазінам ці ў іншым бойкім месцы.

Розныя варыянты можна разглядаць бясконца, але што ўсё-такі фіксуюць лабараторныя прыборы на тым жа Прудкоўскім рынку, ад якога да бліжэйшай чарнобыльскай зоны адсялення (Веткаўскі раён) – два дзясяткі кіламетраў? Хаваць такую інфармацыю, мякка кажучы, – шкодзіць здароўю суайчыннікаў.

Гадзіны праз паўтары Дзмітрый Астапенка ўжо меў звесткі, якія цікавілі газету. Высветлілася, што ветсанэкспертыза зафіксавала чарніцы, у якіх утрымлівалася ад 250 да 500 бекерэляў цэзію-137. У лісічках радыецэзій у асобных выпадках, што называецца, зашкальваў – да 800 бекерэляў. Гэта калі ў кілаграме грыбоў за секунду адбываецца ў сярэднім восемсот радыеактыўных распадаў. Вось такая бывае сёння актыўнасць выпраменьвання ў прыгожых на выгляд грыбочках.

– Агулам у Гомелі нашы лабараторыі выявілі ў правераных 5,8 працэнта чарніц і 13 працэнтаў лісічак, у якіх радыяцыя перавышала дапушчальныя ўзроўні. Якой якасці і чаму прадаюць прадукцыю з лесу па-за тэрыторыямі рынкаў, мы не ведаем і не адказваем за гэта. Няхай з гэтым разбіраецца міліцыя, – кажа Астапенка.

Да сказанага варта дадаць, што добрай радыяцыі не бывае. Навукоўцы ад медыцыны адзначаюць: радыеактыўныя ізатопы ўздзейнічаюць на клеткі чалавечага арганізма разбуральна, наўпрост атручваюць іх. І найбольшае апраменьванне чалавека адбываецца тады, калі ён спажывае "брудныя" прадукты харчавання, асабліва з лесу.

Медыкі зазначаюць таксама, што больш за ўсё набіраюць цэзію-137 журавіны і чарніцы. Пры аднолькавых умовах вырастання чарніцы здатныя назапасіць радыенуклідаў у 2–3 разы болей, чым маліны і суніцы.

Не выключэнне і ядомыя грыбы. Нават у адносна "чыстых" лясах і лісічкі, і баравікі ў стане набраць столькі радыяцыі, што яна абернецца цяжкімі наступствамі для здароўя.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

*Фота аўтара.*

